ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання 38-ы
№ 81 (2441)
14 кастрычніка 1969 г
АЎТОРАК
Цана 4 кап.

# ДА СОНЦА, ДА ЗОР!

«Гэй, да сонца! Гэй, да зор!». Гэты заклік да моладзі аднаго з беларускіх паэтаў, кінуты яшчэ ў дваццатыя гады, як эстафета перададзены нашым старэйшым пакаленнем сынам і ўнукам.

І сёння зноў на зорнай арбіце пяць савецкіх касманаўтаў. Групавы палёт нашых касмічных караблёў «Саюз-6» і «Саюз-7»—гэта новы няўхільны крок савецкіх людзей у касмічныя далі, яшчэ адна вяха ў асваенні міжпланетных трас.

Сэрца поўніцца гордасцю за Радзіму і за яе крылатых першапраходцаў.

Язэп СЕМЯЖОН.

# НА КАСМІЧНАЙ ТРАСЕ— ЗНОЎ САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ!

**11 кастрычніка 1969 года ў космас стартавала савецкая ракета-носьбіт з касмічным караблём «Союз-6». Экіпаж карабля —падпалкоўнік Георгій Сцяпанавіч Шонін і кандыдат тэхнічных навук Валерый Мікалаевіч Кубасаў.**

**12 кастрычніка 1969 года на арбіту выведзен другі касмічны карабель —«Саюз-7». На борце яго — камандзір падпалкоўнік Анатоль Васільевіч Філіпчанка, бортінжынер Уладзіслаў Мікалаевіч Волкаў, інжынер-даследчык падпалкоўнік Віктар Васільевіч Гарбатка.**

**13 верасня радыё паведаміла яшчэ адну навіну — у космасе трэці карабель—«Саюз-8». На яго борце лётчыкі-касманаўты Уладзімір Аляксандравіч Шаталаў і Аляксей Станіслававіч Елісееў.**

**Намечаная праграма палётаў выконваецца паспяхова!**



Георгій Сцяпанавіч ШОНІН.



Валерый Мікалаевіч КУБАСАЎ.



Анатоль Васільевіч ФІЛІПЧАНКА.



Уладзіслаў Мікалаевіч ВОЛКАЎ.

„Мы НАРОДЖАНЫ, каб казку зрабіць быллю...» Як дакладна гэтыя словы славутага маршу перадаюць тое, што адчуваюць сёння савецкія людзі. Зноў нашы ў космасе! Пяць чалавек, пяць камуністаў!

Савецкі народ, усе людзі планеты зараз уключаюць радыёпрыёмнікі, разгортваюць старонкі газет, прыпадаюць да экранаў тэлевізараў, каб пачуць весткі пра палёт «Саюза-6» і «Саюза-7», Вось яны, скупыя радкі паведамленняў ТАСС:

11 кастрычніка, 16 гадзін 56 мінут маскоўскага часу. Касмічны карабель «Саюз-6», пілатуемы лётчыкамі-касманаўтамі таварышамі Шоніным і Кубасавым, завяршыў другі абарот вакол Зямлі. Камандзір карабля Георгій Сцяпанавіч Шонін далажыў, што экіпаж выконвае намечаную праграму.

12 кастрычніка, 10 гадзін 39 мінут. Касмічны карабель «Саюз-6» завяршыў чатырнаццаты віток вакол Зямлі. Пры чарговым сеансе радыёсувязі лётчык-касманаўт Шонін паведаміў, што праграма другога дня палёту паспяхова выконваецца. Касманаўты правозілі адпрацоўку метадаў аўтаномнай навігацыі.

12 кастрычніка, 13 гадзін 45 мінут.

Працягваючы намечаную праграму навукова-тэхнічных даследаванняў і эксперыментаў караблёў «Саюз», у космас стартуе карабель «Саюз-7».

На яго борце экіпаж з трох савецкіх касманаўтаў. Камандзір карабля падпалкоўнік Філіпчанка Анатоль Васільевіч, бортінжынер Волкаў Уладзіслаў Мікалаевіч, інжынер-даследчык падпалкоўнік Гарбатка Віктар Васільевіч.



Віктар Васільевіч ГАРБАТКА.

Па дакладзе камандзіра карабля тав. Філіпчанкі, участак вывядзення на арбіту пройдзен нармальна. Усе касманаўты адчуваюць сябе добра. Бартавыя сістэмы працуюць нармальна.

Учора, калі вярстаўся гэты нумар газеты, свет даведаўся пра новы крок у касмічную прастору — карабель «Саюз-8» штурмуе шосты акіян.

Тры экіпажы савецкіх касманаўтаў працуюць сярод зорак!

*ЛІТАРАТУРНЫЯ ВЕЧАРЫ ПІСЬМЕННІКАЎ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ*

# ДРУЖБЕ—МАЦНЕЦЬ!

ЗАКОНЧЫЛІСЯ прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна літаратурныя вечары пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі ў Беларусі.

У апошні дзень свайго знаходжання ў нашай рэспубліцы пасланцы літаратур народаў братняй Расійскай Федэрацыі наведалі літаратурныя музеі песняроў беларускай зямлі Янкі Купалы і Якуба Коласа, яшчэ раз, на развітанне, прайшліся вуліцамі нашага роднага Мінска, прыгажосць якога ўразіла і ўсхвалявала дарагіх гасцей.

А ў другой палове дня ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбылася заключная сустрэча літаратараў дзвюх рэспублік, на якой былі падведзены вынікі праведзеных у Беларусі літаратурных вечароў пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі.

Цёплым уступным словам адкрыў сустрэчу другі сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Шамякін. Ён гаварыў аб той вялікай радасці і гасціннасці, з якімі сустракаў беларускі народ пасланцоў літаратуры народаў РСФСР, аб карысці такіх узаемных паездак пісьменнікаў братніх рэспублік нашай краіны, аб тым, што праведзеныя вечары з'явіліся добрай зарукай новых сустрэч і сяброўскіх кантактаў беларускіх і расійскіх літаратараў.

Уражаннямі аб паездках па нашай рэспубліцы, аб сустрэчах з рабочымі і калгаснікамі, студэнтамі і школьнікамі, уражаннямі аб наведанні буйнейшых нашых прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, навучальных устаноў, гістарычных і памятных мясцін беларускай зямлі гаварылі народны паэт Кабардзіна-Балкарыі, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў РСФСР Алім Кешокаў, навасібірскі паэт Леанід Рашэтнікаў, маскоўскі паэт, рэдактар часопіса «Наш современник» Сяргей Вікулаў, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Янка Брыль, Еўдакія Лось, смалянін Уладзімір Прастакоў, маскоўскі паэт і перакладчык Дзмітрый Кавалёў, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Павел Кавалёў, прадстаўнік ВЦСПС В. Зайцаў, які суправаджаў пісьменнікаў РСФСР у іх паездках па нашай рэспубліцы.

Усе яны гаварылі аб той вялікай увазе, якая была праяўлена да правядзення літаратурных вечароў пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі з боку партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый нашай рэспублікі, адзначалі выключную цікавасць да сучаснай рускай літаратуры, да літаратуры іншых народаў Расійскай Федэрацыі, якая была праяўлена на прамысловых прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, навучальных установах, падкрэслівалі шчырую цеплыню і сардэчнасць сустрэч дарагіх гасцей — пісьменнікаў РСФСР — з працоўнымі Беларусі.

На сустрэчы асабліва адзначалася, што праведзеныя літаратурныя вечары пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі яшчэ раз пераканаўча прадэманстравалі магутную сілу вялікіх ленінскіх ідэй, якія знайшлі жывое ўвасабленне ў непарушнай дружбе братніх народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы.

У шчырай сяброўскай гаворцы было выказана і нямала канкрэтных прапаноў па ўмацаванні і пашырэнні сувязей і кантактаў паміж пісьменнікамі дзвюх братніх рэспублік.

Так, Леанід Рашэтнікаў, гаворачы аб карысці і плённасці падобных паездках пісьменнікаў у братнія рэспублікі, адзначаў, у прыватнасці:

— Карысць такіх сустрэч не толькі ў тым, што мы пазнаёміліся з Беларуссю, з рэспублікай, дзе жывуць мужныя, працавітыя, надзвычай сардэчныя і гасцінныя людзі. Хораша і тое, што мы пазнаёміліся асабіста, што цяпер у мяне на Беларусі нямала добрых сяброў — выдатных паэтаў і празаікаў. Я з вялікай радасцю вязу з сабой нізку вершаў беларускіх паэтаў. Думаю, што яны ўпрыгожаць старонкі старэйшага савецкага літаратурнага часопіса «Сибирские огни». Ад імя пісьменнікаў Сібіры дазвольце запрасіць вас, дарагія беларускія сябры, да нас у госці. Ваша мілагучнае і мужнае слова сустрэне ў нас такі ж сардэчны прыём, з якім прымала нас ваша шматпакутная і гераічная зямля!

З вялікай прыемнасцю сустрэлі беларускія пісьменнікі прапанову рэдактара «Нашего современника» Сяргея Вікулава аб тым, каб адзін з нумароў часопіса ў будучым годзе цалкам прысвяціць беларускай літаратуры, дасягненням нашага народа ў развіцці гаспадаркі, навукі і культуры.

Беларускія і расійскія пісьменнікі намецілі канкрэтныя шляхі далейшага ўмацавання дружбы і сяброўскіх сувязей паміж дзвюма братнімі літаратурамі. «Дружбе нашай — мацнець!» — пад такім дэвізам прайшла гэтая заключная сустрэча літаратараў Беларусі з пасланцамі літаратуры народаў РСФСР.

Аляксандр ТВАРДОЎСКІ

## РАДЗІМА

Радзіцца б хацеў па заказу
У Крыме ля хвалі марской,
А не — узбярэжжам Каўказа
Хадзіць, як у хаце сваёй.

І славіць бы мора і сушу
У звыклым суседстве прастым,
І бачыць і слухаць іх душы
Сыноўім пачуццем маім...

Радзіцца б на Волзе на ўдачу,
Сваімі лічыць Жыгулі;
Ў пасёлку б радзіцца рыбачым,
Што з палубы бачу ў далі.

І пець, як належыць, аб гэтай
Рацэ з многаплыннай вадой
Па сэрцу майго запавету
На мове на ўласнай маёй.

Радзіцца б у сэрцы Урала,
Дзе слава не ўскрыта да дна,
У песні б няхай прагучала
З магутнаю сілай яна.

Ў Сібіры, ці нават на Усходзе,
Краю маладых гарадоў,
Дзе новабудоўлі узводзяць,—
Усюды з ахвотай гатоў
Радзіцца.

А як пагадзіцца,
Што дзе б ні радзілі мяне,
Не змог бы тады я радзіцца
Ў бацькоўскай маёй старане —

Дзядамі, бацькамі абжытай
З далёкіх замшэлістых дзён,
Зусім не такой знакамітай;
Ў адной з неславутых старон,

Дзе спёкі няма парніковай,
Ні лютых зімой халадоў,
Ні мора, ні пальмы талковай,
Ні горных, вядома, хрыбтоў;

Ні рэк грамавітае славы,
А рэкі там сілы такой,
Што млын на два толькі паставы
Ледзь круцяць слабенькай вадой.

Нічым старана не багата,
А мне ўжо харошая тым,
Што там ёсць бацькоўская хата,
Радзіўся там, бегаў малым;

Што ў дальніх краінах замежных,
На цяжкай апошняй вайне,
З трывогай і смуткам бязмежным
Я думаў аб той старане —

Шчаслівай, вялікай, свабоднай,
Свяшчэннай, як праўды закон.
Да таінства мовы народнай
На ўласны там лад прычашчон.

З яе — незайздроснай, адзінай,
Любімай маёй стараны,
Відаць мне мая ўся Радзіма,
Як горад з Крамлёўскай сцяны.

Лясы яе, горы, сталіцы,
На рэйдзе яе караблі...
І ўсюды гатоў я радзіцца
Пад сцягам вялікай зямлі.

І хоць я жыву ўсёй Айчынай,
Мілей мне мая старана —
Па той адной толькі прычыне:
Мяне нарадзіла яна.

Пераклаў Антон БЯЛЕВІЧ.

Людміла ТАЦЦЯНІЧАВА

## ПРА ЛЕНІНА

Я сіратой расла у ліхалецце,
у грозныя ваенныя гады.
І што такое вечнасць і бяссмерце,
уцяміць не магла зусім тады.
І нават у вялікае расстанне
ў жалобным сэрцы не магла
змясціць
прамоўленага ў клятве абяцання,
што Ленін не памёр
і вечна будзе жыць...
Ужо ўспрыняўшы ленінскае слова,
даведаўшыся, з кім працаўнікі,
ўбачыла я Леніна — жывога
і зразумела: Ленін—на вякі.

Пераклала з рускай мовы Еўдакія ЛОСЬ.

Юлія ДРУНІНА

## ДЗЯЎЧЫНА— ШТО ТРЭБА

Па вуліцы Горкага — што
за паходка! —
Плыве яна, як маляваная лодка.
Прычоска — што трэба,
І світэр — што трэба,
І вусны пад колер світальнага
неба!

Ідзе не стыляжка — дзяўчына
з завода,
На выгляд —
дзіця сорак восьмага года.
Са змены вяртаецца — з цэха,
ці з парку.
Зайздросцяць ханжы і пляткараць
пляткаркі:
«Ой, вусны падмазаны!
Краля — ды годзе:
І стрыжка — па модзе,
І світэр — па модзе,
І туфелькі з бантам,
І кліпсы — заўшнічкі,
І голыя ногі з-пад міні-спадчнікі!..»

А што ў тым благога!
Ў цаху на заводзе
Станкі перад ёю на пальчыках
ходзяць!
Па вуліцы Горкага — што
за паходка!—
Плыве яна з сумкай «мадэрнай»,
як лодка,
А ў сумцы стракатай сапханы
не ў лад
Пяльмені, Ясенін, рабочы халат.

Дзесь дома, адзін у кватэры,
як палец,
Чакае браценнік яе, падшыванец—
Апошняя радасць нябожчыцы-
маці.
Айчым яшчэ летась прыгрэўся
ля сваццi.
Каханы!
Каханы пакуль што ў праекце.
Дзяўчына ідзе па вячэрнім
праспекце.
Дайшла да прыпынку. Чакае
трамвай...
Прыстала!
Што ж, выгляду не падавай,
Сучасніца шэсцьдзесят восьмага
года,
Рабочая костачка,
Гордасць завода.
Каханы твой будзе — і мо
не адзін,
А ў крыўду ханжам мы цябе
не дадзім!

Алім КЕШОКАЎ

## ЗНАХОДКА

Аб гэтым і праз многа год
успамінаць мне горка.
А як было!
Каля варот
Знайшоў я раз пяцёрку.

Прыбег на ўрок, хвалюся ўсім:
вось шчасце чалавеку!
Сябрук і кажа: — Ты б, Алім,
пачаставаў «Казбекам».

На перапынку, пад шумок
гарэзаў аднагодкаў,
мы з ім і дунулі ў ларок
распатрашыць знаходку.

Купляем, дзелім папалам
цыгаркі і запалкі.
І ўжо назад, на ўрокі нам —
як вісусам пад палкі.

— Махнём дамоў! — сказалі мы,
і ўпотай маханулі.
А там усмак, у два дымы,
з цыгарак пацягнулі.

Сябрук курыў і быццам шоўк
пускаў дымок бязважкі.
Мяне ж ледзь кашаль не затоўк
ад першае зацяжкі.

І раптам — мама. Што рабіць!
Чуваць ужо на ганку:
— Дзе ж я магла яго згубіць! —
і бразгае ў бляшанку. —

Па газу ў краму не дайшла —
і на табе — марока.
Цяпер мой школьнік без святла
не вывучыць урокаў.

Пякло акуркам у руцэ,
пад лыжачкай нудзіла,
і нейк самохаць па шчацэ
Сляза слязу каціла.

Прайшлі гады...
З маёй рукі
сышла апёку пляма,
але яшчэ й цяпер, сынкі,
мне сорам перад мамай.

Пераклаў Язэп СЕМЯЖОН.

Дзмітрый КАВАЛЁЎ

## ВЯСНЯНАЕ НАСЛАННЕ

Вясною ў поўнач на паверх
мой восьмы
Пад самае акно прыходзіць Сож:
Маўляў, ты не чакаў нас,
але бачыш, — вось мы,
І ў горадзе знайшлі цябе усё ж.

На астраўку цяпельца вунь мігае,
І цёмначы — нібыта я куру.
Ільдзін чародка крылы
распраўляе,
Як бацяны ў адлётную пару.

І Ясва жоўташэранькаю пліскай
Бяжыць і ўсё згінаецца, — як п'е.
А там, за плынню сцішанаю,
блізка
Сады ў тумане, дзеўчына пяе.

І ўжо яснеюць хаты, як расіны,
Блакітнымі становяцца пад дзень.
Як зімна раніцаю — сіняй-сіняй —
І соснам на гары і месяцу ў вадзе.

Пераклаў Я. СІПАКОЎ.



Сустрэча літаратараў дзвюх рэспублік. Выступае маскоўскі паэт, рэдактар часопіса «Наш современник» Сяргей Вікулаў.



Госці з Расійскай Федэрацыі ў музеі Янкі Купалы.

Фота Ул. КРУКА.

